# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Чацвер, 2 чэрвеня 1994 года | № 57 (10757) | Цана 100 руб.


ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

■ Прыватызацыя

## ПА АКЦЫІ — У АШЧАДНЫ БАНК

Неўзабаве кожны з нас можа стаць уладальнікам часткі /долі/ дзяржаўнай маёмасці. Дастаткова напісаць заяву ў камісію райгарвыканкома, прыкласці даведку аб працоўным стажы і іншыя дакументы, якія даюць чалавеку адпаведныя льготы, і тады будзе налічана пэўная колькасць імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» /аб гэтым падрабязна расказала «Мінская праўда» ў нумары за 26 мая/. Як імі распарадзіцца?

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася гэтымі днямі ў Міністэрстве дзяржмаёмасці, журналістам паведамілі, што ўжо зацверджана палажэнне аб руху чэкаў. Вызначана 61 прадпрыемства рэспублікі, акцыі якіх можна набыць за чэкі «Маёмасць». Да 120-ці з іх пакідаецца для кожнага члена працоўнага калектыву, 5 працэнтаў пойдзе ў рэзерв для сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва, астатнія кожны з нас можа купіць у 152-х аддзяленнях Ашчаднага банка. Прычым толькі там, дзе нам адкрылі чэкавы рахунак і выдалі на рукі сертыфікат чэкаў.

— Прадавацца акцыі фізічным асобам праз Ашчадны банк будуць цэлы год, — зазначыў намеснік міністра дзяржмаёмасці К.Э.Раманоўскі. — Калі іх усе не рэалізуюць, пусцім у продаж на конкурснай аснове, на аўкцыёны.

Ён, а таксама іншыя адказныя работнікі міністэрства адказалі на шматлікія пытанні, звязаныя з прыватызацыяй, імяннымі чэкамі «Маёмасць» і ўвогуле са станам эканомікі ў цяперашні час, яе заканадаўчай базай.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## ПРЫЗНАЧЭННІ

Рашэннем выканкома абласнога Савета дэпутатаў **ЧУХМАНАЎ** Валерый Іванавіч прызначаны начальнікам упраўлення па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, а **АЛЕКСАНДРОВІЧ** Вілен Карлавіч зацверджаны на пасадзе намесніка начальніка ўпраўлення культуры і інфармацыі аблвыканкома.



# КАНДЫДАТЫ ВЫЗНАЧАНЫ

Кропку ў першым этапе прэзідэнцкага марафону паставіла Цэнтральная камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Шэсць удзельнікаў, якія ўключыліся ў гэтую нялёгкую гонку, могуць з палёгкай уздыхнуць і прымаць віншаванні ад сваіх аднадумцаў і апанентаў. Лідэрам па колькасці сабраных подпісаў у падтрымку сваёй кандыдатуры стаў Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч. За яго кандыдатуру выказаліся 371.967 выбаршчыкаў. Кіраўніка Беларускага народнага фронту Зянона Пазняка падтрымалі 216.855 чалавек, а сакратара Партыі камуністаў Беларусі Васіля Новікава — 183.834 выбаршчыкі. Паспяхова пераадолелі 100-тысячны рубеж Аляксандр Лукашэнка, у арсенале якога 156.391 подпіс, Станіслаў Шушкевіч — 123.552 і Аляксандр Дубко — 116.693.

Неардынарная сітуацыя склалася з кандыдатурай Генадзя Карпенкі. Як паведамлялася ўжо ў сродках масавай інфармацыі, з 78 народных дэпутатаў, якія выказаліся за вылучэнне яго кандыдатам у прэзідэнты рэспублікі, 14 затым падалі ў Цэнтральную камісію заявы з просьбай ануляваць іх подпісы. Законам такая працэдура не прадугледжана, а думкі экспертаў па гэтаму пытанню раздзяліліся. З аднаго боку, у адпаведнасці з артыкулам 33 Канстытуцыі кожнаму гарантуецца свабода думак, перакананняў і іх свабоднае выказванне, а з другога — большасць заяў аб адкліканні былі пададзены пасля сканчэння тэрміну збору подпісаў, што не дало магчымасці Генадзю Карпенку заручыцца падтрымкай іншых сваіх прыхільнікаў у парламенце. Перад членамі Цэнтральнай камісіі па выбарах стаяла складанае пытанне, і лепшы выхад з тупіка знайшоў сам Генадзь Дзмітрыевіч. «Я лічу, што ў палітыцы трэба карыстацца толькі чыстымі галасамі. „Брудныя" — выкідаць у смецце. І я дастаткова паважаю самога сябе, каб зрабіць гэта", — заявіў Генадзь Карпенка і падаў адпаведную заяву ў Цэнтральную камісію па выбарах Прэзідэнта. Мэр Маладзечна таксама падзякаваў усім выбаршчыкам, якія выказаліся ў яго падтрымку.

Не абышлося без казусаў і з Аляксандрам Лукашэнкам. Як высветлілася, Аляксандр Рыгоравіч даў недакладныя анкетныя даныя. Ні месца работы, ні месца пражывання не адпавядаюць рэчаіснасці. Спецыяльнае вывучэнне гэтага пытання Цэнтральнай камісіяй па выбарах Прэзідэнта паказала, што ён ужо не ўзначальвае калгас і тым больш не жыве ў Магілёве. У свой час на яго кватэру былі выпісаны два ордэры, і Аляксандр Лукашэнка адмовіўся ад яе на карысць сям'і аднаго з работнікаў мясцовых органаў унутраных спраў. Зрэшты, гэта не прывяло да адмаўлення ў рэгістрацыі, бо па закону адсутнасць прапіскі не з'яўляецца падставай.

Сам Аляксандр Лукашэнка яшчэ падліў масла ў агонь, заявіўшы, што на сённяшні дзень у яго зусім няма ніякіх дакументаў, таму што яны тайна зніклі разам са службовай машынай, якую ў яго забралі пасля спынення дзейнасці часовай камісіі парламента, што ён узначальваў.

*БЕЛІНФАРМ.*

***Высокія цэны на прамысловыя тавары не прыбаўляюць аптымізму ў рабоце, зніжаюць тэмпы тавараабароту. Што трэба зрабіць, каб выправіць становішча? У многім гэта залежыць ад саміх работнікаў прылаўка. І там, дзе да справы ставяцца адказна, сур"ёзна, дасягаюцца неблагія вынікі. Пераканацца ў гэтым можна, наведаўшы прамтаварныя магазіны Дзяржынска. Спажыўкааператары стараюцца, каб людзі пакідалі гандлёвую кропку з пакупкай і з добрым настроем.***

***НА ЗДЫМКУ: дырэктар рознічнага гандлёвага прадпрыемства Дзяржынскага райспажыўсаюза Людміла Адамаўна ХІТРЫК.***

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Імя славутасцей

У Маладзечне адной з вуліц прысвоена імя Генадзя Каханоўскага — краязнаўцы, пісьменніка, доктара гістарычных навук, які жыў і доўгі час працаваў у горадзе. Мемарыяльная дошка будзе ўстаноўлена на доме, дзе ён жыў, а на магіле — помнік. А вось Мінскаму абласному краязнаўчаму музею, дырэктарам якога калісь быў вучоны, яго імя не прысвойвалася, пра што памылкова паведаміла адна з газет.

Выканком абласнога Савета ўвайшоў з хадайніцтвам у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб прысваенні Калодзішчанскай сярэдняй школе Мінскага раёна імя вядомага беларускага пісьменніка Рыгора Няхая.

■ В партиях и движениях

## У БАНКИРОВ СВОИ ИНТЕРЕСЫ

Дума Славянского собора "Белая Русь" сделала заявление. В нем говорится, что разрыв экономических связей бывшего СССР, прежде всего Беларуси с Россией, парализовал весь хозяйственный механизм республики. Предприятия испытывают острый дефицит сырья и энергоносителей. Катастрофически падают объемы производства. Большая часть оборотного капитала субъектов хозяйствования заморожена в виде готовой продукции, переполнившей все склады. Республика стоит перед перспективой массовой безработицы.

Государственная казна пуста. Не имея поступлений в бюджет, правительство вынуждено печатать ничем не обеспеченные денежные знаки. Банки, и прежде всего коммерческие, выдавая кредиты под бешеные проценты, еще больше раскручивают инфляционную спираль. В итоге основная масса населения уже сегодня находится за чертой бедности.

Для любого здравомыслящего человека совершенно очевидна необходимость интеграции с Россией и Украиной — основными поставщиками сырья для нашей промышленности и потребителями производимого нами товара. Такая стратегическая линия и предложена правительством, инициировавшим в качестве первого шага на этом пути объединение денежных систем Беларуси и России.

Вместе с тем определенные политические силы как в республике, так и за ее пределами развернули массированную кампанию против подписания договора. Фарисейски умалчивая о том, что именно они были инициаторами той политики, которая привела экономику республики к краху, они обвиняют правительство во всех смертных грехах, вплоть до государственной измены. В последнее время в эту грязную и циничную кампанию по дискредитации правительства и взятого им курса включился Национальный банк республики в лице председателя его правления С.Богданкевича.

Анализ аргументов, выдвинутых им в эксклюзивном интервью "Народнай газеце", а затем на пресс-конференции, показывает, что за его псевдопатриотической риторикой нет никакой позитивной программы, что она, эта риторика, преследует единственную цель — защитить ведомственные интересы аппарата Национального банка и коммерческих банков, занимающихся, по сути дела, не коммерческой, а ростовщической деятельностью.

Введение собственной валюты, на чем настаивает Национальный банк, при нынешнем состоянии нашей экономики приведет лишь к одному результату — она будет использована в качестве средства экспроприации национального достояния республики западным и отечественным криминальным и полукриминальным капиталами. Придав явочным порядком белорусскому рублю статус единственного платежного средства на территории республики, Национальный банк своей антиправовой акцией стремится, во-первых, вызвать определенную негативную реакцию со стороны России, во-вторых, оказать давление на Верховный Совет, поставив его перед свершившимся фактом.

В связи с этим Дума Славянского собора "Белая Русь" заявляет, что она осуждает клеветническую кампанию, развязанную вокруг договора об объединении денежных систем Беларуси и России, полностью поддерживает усилия правительства, направленные на экономическую интеграцию с Россией, рассматривая эту позицию как безальтернативную в деле защиты национальных интересов белорусского народа.

■ Кантакты-кантракты

## "КАНСУМЭКСПА-94"

Геаграфічнае становішча Беларусі вельмі зручнае для гандлёвай экспансіі на Усход. Мы атрымліваем выдатную транспартную базу па дарозе ў Расію і іншыя краіны былога Саюза. Гэта гарантуе нам магчымасць набыцця рынкаў велізарнай ёмістасці для нашых тавараў. Ды і сама Беларусь з'яўляецца для нас цудоўным рынкам збыту.

Ясней не скажаш! Ці не таму яна так і прыцягвае замежных бізнесменаў (вышэйпрыведзеныя словы пачуў ад удзельнікаў міжнароднай выстаўкі спажывецкіх тавараў "Кансумэкспа-94", якая працуе ў Мінску з 31 мая па 4 чэрвеня (праспект Машэрава, 14). На ёй прадстаўлены адны толькі польскія фірмы (амаль 80 экспанентаў), што таксама не выпадковасць.

Як заявіў міністр знешнеэканамічных сувязей У.В.Радкевіч, з першых дзён набыцця суверэнітэту самы большы гандлёвы тавараабарот у Беларусі быў з Польшчай.

— І той факт, што з 1.300 сумесных прадпрыемстваў, ды яшчэ плюс каля трохсот, у якіх замежны капітал складае 100 працэнтаў статутнага фонду, 35-40 працэнтаў створаны з фірмамі Польшчы, гаворыць аб многім. Нашы гандлёвыя сувязі мы будзем развіваць і далей, — падкрэсліў міністр.

— А мы бачым Беларусь у ролі гандлёвага пасрэдніка паміж Захадам і Усходам. Дзейнасць "Мінскэкспа" з'яўляецца лепшым прыкладам, — зазначылі ў час гутаркі кіраўнікі польскіх фірм. Яны разлічваюць, што іх прадукцыя — адзенне, абутак, мэбля, асвятляльныя лямпы, харчовыя тавары, касметыка і многае іншае знойдуць свайго пакупніка ў Беларусі.

Што ж, узаемавыгадныя кантракты на карысць усім нам.

*/Наш кар./*

## ЯШЧЭ ДВА КАЛЕДЖЫ

У Беларусі не засталося амаль ніводнага інстытута — яны пераўтвораны ва універсітэты і акадэміі. Цяжка сказаць, ці павысіўся ўзровень падрыхтоўкі будучых спецыялістаў у іх, але факт ёсць факт. Як і тое, што хутка, відаць, не будзе ў нас вучылішчаў, тэхнікумаў, школ, а суцэльныя каледжы, гімназіі, ліцэі. Зноў жа: акрамя павышэння зарплаты выкладчыцкаму саставу, што зменіцца ад перамены шыльды?

Тым не менш, з 1 верасня ў вобласці будуць яшчэ два каледжы (дарэчы, як сведчаць слоўнікі, англійскае **каледж** — у Англіі — назва навучальных устаноў ад універсітэцкага тыпу да сярэдніх школ; у ЗША — назва галоўным чынам спецыяльных вышэйшых навучальных устаноў). Імі стануць Барысаўскае і Нясвіжскае педвучылішчы. «У мэтах павышэння ўзроўню падрыхтоўкі педагагічных кадраў, забеспячэння інтэграцыі сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай педагагічнай адукацыі, удасканалення яе сістэмы», — так запісана ў рашэнні выканкома абласнога Савета па гэтаму пытанню.

■ Ідуць экзамены

## Пачатак новых дарог

Учора ў агульнаадукацыйных школах, гімназіях і ліцэях вобласці пачаліся выпускныя экзамены. Гэта — падагульняючая праверка шматгадовай дзейнасці педагагічных калектываў, агляд якасці працы і настаўнікаў, і вучняў.

Вось што з гэтай нагоды нашаму карэспандэнту адказаў начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома **А.С.НОВІК:**

— На Міншчыне 974 школы, з іх 538 сярэдніх, 12 гімназій, 2 ліцэі, 215 базавых (няпоўных сярэдніх). Учора больш за 21 тысячу дзевяцікласнікаў і 10.368 адзінаццацікласнікаў трымалі свой першы экзамен, які нам дазволіў падвесці першы вынік работы кожнага настаўніка і вучня, даў магчымасць як у люстэрку ўбачыць поспехі і пралікі, здабыткі і недахопы. Аналіз парадаваў. Зробім усё, каб і астатнія экзамены школьнікі здалі добра. Галоўнае тут — не дапусціць фармалізму, уважліва падысці да кожнага вучня.

— Аляксандр Сцяпанавіч, экзамены — апошняя прыступка перад выхадам на самастойны жыццёвы шлях новага пакалення выхаванцаў школы. Якім вам бачыцца гэты іх шлях?

— Нялёгкім. У рыначным бязладдзі, сапраўды, цяжка знайсці выпускніку школы сталую працу. Але, лічу, не трэба панікаваць. Па-першае, з мінулых гадоў мы добра памятаем, як цяжка было выпускнікам дзевятых класаў стаць вучнямі СШ. Для іх ствараліся рэальныя класы, у якія не кожны вучань хацеў трапіць. Сёлета Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне, у якім сказана, што кожны юнак, кожная дзяўчынка маюць права працягваць адукацыю ў розных навучальных установах. Другое. Тым жа рашэннем "забраніравана" 10 працэнтаў ад планавых лічбаў навучальных месц у прафесійна-тэхнічных вучылішчах для выпускнікоў базавых і сярэдніх школ, якія не прайшлі па конкурсу ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Усё гэта ў будучым. А пакуль жадаю тым, хто здае экзамены, творчага плёну, шырокіх даляглядаў.

■ З першых вуснаў

## А у, лета

***Вось і дачакаліся яго. Афіцыйна лета ўступіла ў свае правы. Толькі вось доўгачаканага сонейка, цяпла мы так і не атрымалі. Яны — у дэфіцыце. Бясконечная зіма, зацяжная вясна, халоднае лета... З тугою людзі пазіраюць у неба: што чакае нас заўтра? Перад стыхіяй гаснуць палітычныя страсці. Куды там да дэбатаў, быць бы з хлебам, агурком, цыбулінай.***

**— Такое надвор"е тыповае для пачатку чэрвеня? —** пытанне галоўнаму сіноптыку Гідраметцэнтра **Тамары Рыгораўне ЦЯРЭШЧАНКА.**

— Безумоўна, не. Тэмпература паветра на 3—7 градусаў ніжэйшая за норму. Больш нормы выпадае ападкаў.

**— Значыць, тым, хто запланаваў адпачынак у першым месяцы лета, няма на што спадзявацца?**

— Так катэгарычна сцвярджаць не бяруся. Мы атрымалі доўгатэрміновы прагноз надвор"я з Расіі, дзе гаворыцца, што ў чэрвені тэмпература паветра, колькасць ападкаў будуць у межах нормы.

**-- А далейшы прагноз? Якой інфармацыяй абменьваюцца сіноптыкі блізкага замежжа аб сёлетнім леце?**

— Безапеляцыйна гаварыць, якое будзе лета, могуць толькі прадказальнікі, якія ні за што не адказваюць. Адзін скажа, што лета будзе халоднае, другі — спякотнае, і хтосьці абавязкова «патрапіць у кропку». Мы ж такое не можам сабе дазволіць. Самы бліжэйшы прагноз — на месяц, суткі.

**— І што нас чакае?**

— У бліжэйшыя дні істотных змен у надвор"і не будзе. Так што нічым не магу суцешыць: холадна, дажджы...

*Ірына КАНСТАНЦІНАВА.*

## Крымінал-тэлетайп

### БЕЛЫ ЛІМУЗІН СЯРОД ЦЕМРЫ

Мы пісалі ўжо, як нашы зладзеі на белых «Жыгулях» аблапошылі палякa. Гісторыя паўтараецца, хаця ў некалькі іншым варыянце. Цяпер у Мінскі аддзел унутраных спраў звярнуўся жыхар Балгарыі. Ён з сябрамі паспрабаваў адпачыць на неахоўваемай стаянцы на шашы Мінск—Чэрыкаў у машынах, якія пераганялі ў Балгарыю. Не ўдалося. Каля 2 гадзін ночы да іх пад"ехаў белы лімузін. Пяць мужчын паводзілі сябе агрэсіўна. Памахалі зброяй — і балгары аддалі 500 долараў.

### ЗВЕР ЗАСТАЕЦЦА ЗВЕРАМ

Жудасная трагедыя адбылася ў пасёлку Светлы Бор: задушана і згвалтавана вучаніца першага класа Светлаборскай сярэдняй школы. Праваахоўныя органы хутка выйшлі на след. Устаноўлена, што злачынства ўчыніў рабочы Пухавіцкай кардоннай фабрыкі, раней двойчы судзімы. Ён затрыманы.

### КРАДУЦЬ ТОЕ, ШТО ДРЭННА ЛЯЖЫЦЬ

Вартаўніка ў магазіне не было, а адключыць сігналізацыю і залезці ў памяшканне зладзеям аказалася не цяжка. Зніклі з магазіна ў вёсцы Уша Бярэзінскага раёна 10 скрынь гарэлкі, цыгарэты, мужчынскае адзенне і шмат іншых тавараў.

Ноччу зладзеі залезлі на збожжасклад калгаса імя Чкалава Слуцкага раёна. У гаспадарцы недалічыліся 200 літраў ядахімікатаў.

А вось у Маладзечне быў узламаны дах гаража таваразнаўцы фірмы «Сустрэча». Знікла аўтамашына. Праўда, пацярпеўшы быў больш шчаслівы: міліцыя хутка «вылічыла» злодзея. Ім аказаўся вучань Ждановіцкай школы-інтэрната для глуханямых, які затрыманы.

### ПАПЯРЭДЖВАЕМ: ХАДЗІЦЬ НОЧЧУ НЕБЯСПЕЧНА

Два розныя паведамленні. Але іх аб"ядноўвае адно: учынены злачынствы глыбокай ноччу, што лішні раз пацвярджае — хадзіць ноччу аднаму па вуліцах небяспечна.

У тры гадзіны ночы на вуліцы Горкага ў Барысаве незнаёмец спыніў ваеннаслужачага і забраў у яго 250 тысяч рублёў. Злачынцу затрымалі. Ім аказаўся жыхар Барысава, які нідзе не працаваў. Начное «паляванне» закончылася для яго прыводам у міліцыю.

А вось для жанчыны, якая апынулася на сталічнай вуліцы ў 2 гадзіны ночы, усё закончылася больш трагічна. Яна села ў «Жыгулі», а вадзіцель адвёз яе за горад, збіў, згвалтаваў і забраў залаты ланцужок.

**Усяго ў вобласці ўчынена 146 злачынстваў. З іх — 3 забойствы, 10 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 2 згвалтаванні, 33 крадзяжы дзяржаўнай і 74 — асабістай маёмасці. 15 дарожна-транспартных здарэнняў. 4 чалавекі загінулі, 13 — паранены. 59 пажараў і загаранняў. 2 чалавекі загінулі ў агні, 3 — атрымалі апёкі. Скончылі жыццё самагубствам 8 чалавек.**

*Ірына АНДРЭЕВА.*

■ Выпрабаванне рынкам

# Гняздо на бацькавай сялібе

**Яшчэ і летась суседзі гаварылі яму са спачуваннем: "Хадзіў бы ты і далей, Валодзя, пад гальштукам. Чаго цябе пацягнула да зямлі?"**

**Уладзімір Рыгоравіч Грэскі два гады назад вярнуўся ў родную вёску Чапліцы, што на Случчыне, стаў фермерам. Тут, у мясцовым саўгасе "Танежыцы", працавалі яго бацькі. Яшчэ калі Уладзімір быў школьнікам, маці напаміна: "Вучыся, сынок, старайся. Гэта ўжо нам дажываць тут свой век". Так гаварылі тады дзецям многія маці. І год за годам Чапліцы старэлі.**

Уладзімір Рыгоравіч атрымаў вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю. Па размеркаванню трапіў у Слуцкую райсельгастэхніку на пасаду галоўнага механіка. Дванаццаць гадоў адслужыў. Атрымаў ведамасную кватэру, ажаніўся. Жонка Алена Іванаўна — тэхнік-метролаг. Працавала ў Слуцку на заводзе "Калібр". У сям'і падрасталі дзве дзяўчынкі. Жылі небагата, але і не бедавалі.

А потым у абаіх Грэскіх адбыўся "паварот" у выбары жыццёвых арыенціраў. Напэўна, падала голас тая гаспадарская струнка, што ёсць у кожнага вяскоўца.

— Разумееце, надакучыла лаяцца з п'яніцамі, разгільдзяямі, браць на сябе іх промахі па рабоце, — расказвае Уладзімір Рыгоравіч. — І ўсё гэта за 180 рублёў у месяц. А тут якраз хата бацькоў у вёсцы апусцела. Перапісаў яе на дачку. Ад вёскі Вясея, дзе мы жылі, да Чапліцаў добрыя трыццаць кіламетраў. Вырашылі атабарыцца трывала, завесці фермерскую гаспадарку.

***— Вы так вырашылі ці жонка?***

— Хутчэй за ўсё — Алена. Яна таксама з сялянскага роду. У іх на заводзе пачалося скарачэнне штатаў. Трапіла пад скарачэнне і яна. Вось і настаяла на стварэнні фермы, я не быў супраць. Прыехаў у вёску, аформіў дакументы на набыццё 15 гектараў зямлі. Кіраўніцтва мясцовага саўгаса не пярэчыла. Наадварот, яго дырэктар нават ухваліў мой намер, чым мог дапамагаў.

***— Але ж зямля без тэхнікі мёртвая. А цэны на сельгасмашыны сёння кусаюцца, падчас недаступныя пачынаючаму фермеру. Як вы знаходзілі выйсце?***

— Паспеў яшчэ да рэзкага скачка цэн на тэхніку набыць тры трактары, у тым ліку адзін гусенічны Т-74, увесь неабходны сельгасінвентар. Праўда, браў крэдыт у аграпрамбанку. Дарэчы, ужо аддаў.

***— Якую зямлю вам выдзелілі ў саўгасе?***

— Не лепшую, цяжкія суглінкі. У першы год там была саўгасная паша. Я аплаціў затраты, і ўся плошча поўнасцю перайшла ў маё распараджэнне. Завёў галандскі сорт бульбы на бязвіруснай аснове — "сантэ". За дзве тысячы клубняў у Горацкай сельгасакадэміі ў 1992 годзе аддаў дзве тысячы рублёў. У першы год сабраў пятнаццаць мяхоў клубняў. Ураджай па маіх прыкідках склаў 380 цэнтнераў у пераліку на гектар. Летась гэтым сортам заняў ужо сотак пяцьдзесят. Ураджай дасягнуў амаль 400 цэнтнераў. Набыў таксама ранні сорт "прыёр". Сёлета планую заняць бульбай гектары тры.

***— Чуў, што па выніках мінулага года ваша ферма сярод аналагічных гаспадарак раёна заняла першае месца па эфектыўнасці выкарыстання зямлі. У чым канкрэтна гэта праявілася?***

— У разліку на гектар я атрымаў па 54,4 цэнтнера кармавых адзінак раслінаводчай прадукцыі. Гэта добры паказчык, на ўзроўні перадавых калгасаў. Прадаў дзяржаве амаль 49 цэнтнераў збожжа, 62,3 тоны каранёў цукровых буракоў. Збожжавыя — ячмень, авёс, жыта — далі ў мяне з гектара па 53 цэнтнеры, цукровыя буракі — па 360. Нялёгка было ў час уборкі, хоць мне дапамагалі стрыечны брат, жонка. Работы ўсім хапала... Падчас паяўлялася думка кінуць усе гэтыя турботы і жыць зноў як большасць вяскоўцаў ці гараджан. А потым адумаешся, супакоішся, і неяк перад сваім сумленнем сорамна робіцца за часовае маладушша. Не прывык на інжынернай пасадзе да вялікіх фізічных нагрузак — вось і паявіўся "чарвячок сумнення". Ды шмат значыць для фермера бачыць вынікі сваёй працы. У жыцці гаспадара не бывае пустаты.

***— Якімі планамі, клопатамі жывяце зараз?***

— Выпісаў лесу. Вывожу пакрысе. Хачу павець для захоўвання тэхнікі ўзвесці. "Рэбры" яе ўжо стаяць. Раблю разлікі-прыкідкі на ўзвядзенне зернясховішча, бульбасховішча. Вядома, без крэдытаў не абыдзешся. Браў іх пад 50 працэнтаў — на пакупку гаручага. Яго цяпер хопіць і для ўборкі. Мінеральныя ўгнаенні на палі з восені ўнёс. Арганіку сам раблю. Здрабняю салому, ссыпаю сечку ў паглыбленне ў зямлі, паверх яе некалькі разоў паліваю гноевай жыжкай. Вось і кампост. Аднак думаю сёлета завесці 5—6 кароў. Без жывёлы на падворку зямля добра радзіць не будзе. Гэта для фермера аксіёма.

***— Уладзімір Рыгоравіч, ці не думаеце расшыраць свой надзел? Для стварэння таварнай, прыбытковай фермы 15 гектараў мала.***

— Усё правільна. На малой плошчы атрымліваецца толькі трохпольны севазварот, а мне патрэбен шасціпольны. Трэба мець хоць бы 50 гектараў. Думаю, што з боку дырэкцыі саўгаса перашкод не будзе, падтрымалі б раённыя начальнікі, што займаюцца пытаннямі землекарыстання.

*Гутарыў Міхась ТЫЧЫНА.*
*Слуцкі раён.*

■ Вось так і жывём

# АД "СТАЛА ЗАКАЗАЎ" ЗАСТАЎСЯ АДЗІН СТОЛ

**Любяць у нас пагаварыць аб неабходнасці праяўляць міласэрнасць да састарэлых, інвалідаў, пенсіянераў. Не спыняюцца такія размовы і ў рэспубліканскім парламенце, і ў ніжэйшых інстанцыях. Прымаліся і прымаюцца адпаведныя "гуманітарныя" рашэнні, такія-сякія канкрэтныя дзеянні.**

Напрыклад, пэўныя групы насельніцтва /інваліды вайны і працы, інваліды з дзяцінства, тыя, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы і г.д./ на хвалі чалавечай сардэчнасці і спачування няшчасным людзям замацоўваліся за пэўнымі магазінамі для так званага "льготнага" абслугоўвання і забеспячэння некаторымі дэфіцытнымі прадуктамі, прамтаварамі.

А што на справе? Ільготнікі атрымліваюць у адведзеных для іх магазінах тыя ж самыя прадукты, што і ў звычайных гастраномах, прычым па тых жа самых цэнах. Горш таго, у так званых "сталах заказаў" пайшлі ў ход розныя цэны. Напрыклад, пры гастраномах, што на вул.Бірузова і на вул.Альшэўскага /побач з магазінам "Бураціна"/ у Мінску свініну для інвалідаў прадавалі нядаўна па 5.100 рублёў за кілаграм, а ў такім жа "стале заказаў" пры універсаме "Талін" — па 8.500 рублёў за кілаграм. І гэта ў адным і тым жа Фрунзенскім раёне сталіцы. Дзе ж тут логіка?

Некаторыя загадчыкі магазінаў спрабуюць растлумачыць гэты парадокс тым, што, маўляў, розныя гандлёвыя арганізацыі закуплялі свініну па розных закупачных цэнах і што гэта быццам бы зусім нармальная з"ява для рыначнай эканомікі. Калі зыходзіць з таго, што адкрытую спекуляцыю, за якую яшчэ не так даўно ў нас справядліва судзілі махінатараў, сёння пачалі афіцыйна называць бізнесам і прадпрымальніцтвам, то прычына як на далоні. Але няўжо ж у дзеячаў нашага гандлю /пакуль яшчэ дзяржаўнага/ канчаткова знікла чалавечае сумленне, калі яны нават для інвалідаў узнімаюць цэны на тавары? Некаторыя дэпутаты ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь прапануюць замест таго, каб зніжаць цэны на тавары для "льготнікаў", выдаваць ім адпаведныя даплаты да пенсій, але гэта зусім не лепшы варыянт для няшчасных грамадзян. Калі, напрыклад, інвалід ці састарэлы ўвесь час хварэе, то ён гэтыя даплаты да пенсіі пусціць не на прадукты, а на лекі, якія каштуюць сёння ў нашых аптэках ужо бог ведае колькі.

Аднак якія б ні былі нашы магазіны /дзяржаўныя ці прыватызаваныя/, усё роўна ў спецыяльных "сталах заказаў" для продажу тавараў інвалідам і іншым ільготнікам цэны не павінны быць вышэйшыя, чым у астатніх магазінах — гэта элементарная міласэрнасць, якую ў нас сёння пачалі адкрыта зневажаць. Якое ж гэта льготнае абслугоўванне найбольш абяздоленай катэгорыі насельніцтва? Гэта самы звычайны здзек над людзьмі, і Вярхоўнаму Савету час ужо не проста фіксаваць падобныя факты і прымаць "прыгожыя" рашэнні, а патрабаваць ад Савета Міністраў РБ дзеянняў на практыцы.

Тым часам справа з ільготным абслугоўваннем інвалідаў складваецца ўсё горш і горш. Напрыклад, пры універсаме "Талін" пад "стол заказаў" быў адведзены, у адпаведныя па графіку дні, увесь кафетэрый, што пры універсаме, і хоць не заўсёды тут было прасторна, але да паслуг пакупнікоў былі два прадаўцы, тры касіры, дзяжурная, паліцы і стаякі з прадуктамі, каляскі для набору прадуктаў. А што сёння? У гэтым кафетэрыі для льготнікаў — толькі стол і дзве касы. Карацей кажучы, ад "стала заказаў" застаўся адзін толькі стол як прадмет мэблі. А што датычыць прадуктаў, то яны тыя ж самыя, што і цераз сценку, ва універсаме: тыя ж самыя згушчонка, куры, вараная каўбаса, тушонка, цукеркі — і па тых жа самых дзікіх цэнах. Хіба ж гэта не здзек: замест таго, каб купіць патрэбны прадукт у бліжэйшым гастраноме, інвалід вымушаны дабірацца ў любое /не заўсёды спрыяльнае/ надвор"е ў аддалены "стол заказаў".

Тое ж самае і ва універмагах Мінска, якія на падставе вядомага рашэння Мінскага гарсавета прынялі пісьмовыя заяўкі ад інвалідаў І-й і 2-й груп на прамтавары першай неабходнасці: трусы, майкі, шкарпэткі, кашулі, абутак і да т.п. Напрыклад, супрацоўнікі ГУМа час ад часу звоняць сваім патэнцыяльным пакупнікам і паведамляюць, што паступіў заказаны тавар, але калі інвалід пытае пра кошт, напрыклад, сарочкі або туфляў, дык у яго валасы ўстаюць дыбам. Цэны агульныя, як і для ўсіх — ніякай пенсіі не хопіць, калі, вядома, не адмовіцца поўнасцю ад харчавання.

Падумаўшы над усім гэтым, хачу спытаць:

— Дык у якой жа ролі павінна сёння выступаць наша дзяржаўная /калі яна яшчэ не зусім знікла/ сістэма кантролю? І якая пры гэтым роля элементарнай чалавечай міласэрнасці? Няўжо ніхто так і не адкажа на гэтыя невясёлыя, але зусім натуральныя пытанні?

*Якаў ЛІФАНАЎ,*
*член Саюза журналістаў.*



*У дні школьных канікулаў шасцікласнікі смілавіцкай сярэдняй школы № 2 дапамагаюць працаўнікам калгаса "Беларусь" Чэрвеньскага раёна. Яны з задавальненнем працуюць у полі, дзе высаджваюць расаду капусты.*
***На здымку:** у хвіліны адпачынку.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# ПРЫВЕТЛІВА

## сустракаюць наведвальнікаў у Куркаўскім сельскім Доме культуры Смалявіцкага раёна

**Хаця і нямнога цяпер у вяскоўцаў вольнага часу, але яны ахвотна наведваюць гэтую культасветустанову. Нават тэлевізар не можа ўтрымаць хлебаробаў дома: людзей цягне ў Дом, дзе глядзельная зала ператвараецца ў тэатральны партэр, дзе яны змогуць навучыцца культуры зносін, сустрэцца з цікавымі субяседнікамі, паслухаць канцэрт мастацкай самадзейнасці ці прыезджых артыстаў.**

Усім гэтым патрабаванням Куркаўскі СДК адпавядае. Ужо шмат гадоў ім загадвае Людміла Аляксандраўна Гівойна. Многія памятаюць, як у іх вёсцы паявілася маладзенькая брыгадзірка. Прыехала яна ў Куркава пасля заканчэння Мар"інагорскага сельгастэхнікума. І брыгада, якую даручылі маладому спецыялісту, хутка стала адной з лепшых у гаспадарцы. Давялося ёй папрацаваць і загадчыцай фермы. Дастаўляла абеды ў поле механізатарам. Адным словам, маладой жанчыне да ўсяго была справа, за ўсё яна хварэла.

З дзяцінства Людміла Аляксандраўна захаплялася мастацкай самадзейнасцю. Вырасла ў суседняй вёсцы Усяжы. У роднай хаце з суседскімі дзецьмі наладжвала канцэрты.

— Быць табе, дачушка, артысткай, — жартавалі бацькі.

Але здарылася так, што Людміла паступіла ў сельгастэхнікум, дзе таксама была першай спявачкай, добрым арганізатарам мастацкай самадзейнасці.

Калі ж захапленне перарасло ў прафесію? А тады, калі ў Куркаве культработнікі пачалі мяняцца нібы дні на тыдні. Запрасілі яе ў сельскі Савет і сказалі:

— Лепшай кандыдатуры на пасаду дырэктара сельскага Дома культуры, чым твая, няма. І быць не можа...

У той жа дзень пагадзілася паспытаць новага "хлеба", хаця добра ведала яго смак. Каб не папікалі, што спецыяліст клубнай справы не мае дыплома, паступіла на завочнае аддзяленне Мінскага культасветвучылішча /цяпер — вучылішча мастацтваў/, якое паспяхова закончыла ў 1985 годзе.

Цяпер Куркаўскі СДК — адзін з лепшых у раёне. Аб чым сведчыць і той факт, што яму нядаўна быў аказаны гонар выступіць на раённым злёце перадавікоў працы. Гэта быў агляд народных талентаў. І куркаўцы вытрымалі яго паспяхова. На высокім прафесійным узроўні выступіў ансамбль народнай музыкі, якім кіруе Яўген Гераінаў. Ён выканаў два нумары — "Вянок беларускіх танцаў" і "Гуляць дык гуляць". Звінелі крышталёвай чысцінёю розныя музычныя інструменты, то рассыпаючыся срэбнымі гукамі веснавога ручая пад лёгкімі аблачынкамі, то вялі тужлівую мелодыю-аповесць аб жыцці. І ўсё было ў гэтых гуках: і радасць, і неспакой, і смутак, і шчырае вяселле. У гэтым ансамблі выступаюць людзі розных прафесій і ўзростаў. Напрыклад, сям"я М.П.Бялана. Сам гаспадар Міхаіл Панцялеевіч віртуозна грае на гармоніку, яго сыны Сяргей і Міхаіл — на балалайках. Ніхто з іх не заканчваў музычныя ўстановы, а якія непаўторныя мелодыі, якую прыгажосць дораць людзям! Самы старэйшы ў гэтым калектыве Рыгор Фаміч Бацяноўскі. Даўно былы настаўнік на пенсіі. Колькі весялосці выкрасае яго душа, колькі спрыту заўважаеш у яго руках, калі выходзіць на сцэну! Ствараецца ўражанне, што перад табою бывалы прадстаўнік кансерваторыі ці слыннага прафесійнага калектыву мастацтваў. З такой жа цеплынёй хочацца гаварыць і пра іншых удзельнікаў мастацкай самадзейнасці СДК — Івана Казлоўскага, Ніну Жураву, Надзею Глушыну, Ніну Піляк, Раісу Бондараву, Валянціну Рашчыкаву, Марыю Галубоўскую і іншых. Слухаючы гэтых артыстаў, я не раз захапляўся іх майстэрствам. І яшчэ, на мой погляд, цікавая дэталь: цераз дарогу ад СДК — сярэдняя школа. Шмат гадоў працую ў органах культуры. Нямала змагу прыгадаць прыкладаў, калі нават такое блізкае суседства не аб"ядноўвала людзей: школа не ведала, чым жыве клуб, а клуб ніяк не мог даклікацца на свае мерапрыемствы настаўнікаў, хаця б у ролі звычайных наведвальнікаў. У Куркаве, дзякуй Богу, такога размежавання не было, няма і, напэўна, не будзе. Тут амаль кожны педагог актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці.

І ўсё ж Людміла Аляксандраўна, як дырэктар Дома культуры, не заўсёды задаволена сваёй работай. Хвалюе жанчыну інфантыльнасць сённяшняй моладзі, яе сляпое пакланенне норавам Захаду. Юнакі і дзяўчаты гатовыя выступаць на сцэне паўголыя. Калі Л.А.Гівойна не дазваляе ім такія "выбрыкі", навальваюцца з папрокамі:

— У вас старыя погляды на жыццё. Напэўна, тэлеперадач не глядзіцё. Там на сцэну некаторыя артысты ансамбляў амаль голыя выходзяць. І нічога...

Усімі магчымымі сродкамі Людміла Аляксандраўна змагаецца супраць такіх навацый. Вось што яна гаворыць:

— Тыя юныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, якія цяпер імкнуцца на сцэну, будуць жыць і працаваць у XXI стагоддзі. Ім суджана несці далей традыцыі народнай творчасці. Таму яны павінны гарманічна сябе выхоўваць, ва ўсім паказваць станоўчы прыклад.

Людміла Аляксандраўна — адна з тых, хто ў мастацкай самадзейнасці ўмела адрознівае галоўнае ад другараднага, выпадковага, ніколі не капіруе чыста знешнія прыкметы рэчаіснасці, бо натуралізм не здольны быць мэтанакіраваным мастацтвам, паколькі знаходзіцца ў палоне знешняга падабенства, не здольны пранікнуць у глыбінную сутнасць жыццёвых працэсаў, а значыць — не здольны паказаць гэтыя працэсы праўдзіва. Дарэчы, для падрыхтоўкі масавых мерапрыемстваў яна не запрашае ні рэжысёраў, ні мастакоў-афарміцеляў. Усё робіць сама, бо за яе, бадай, ніхто лепш не ведае, чаго аднавяскоўцы чакаюць ад клубнай установы. Купалле тут праводзяць на беразе мясцовай сажалкі. А каб ярчэй паказаць чароўнасць ліпеньскай ночы, нават набылі пражэктары. У іх промнях — прыгожыя твары вяскоўцаў, вянкі, сплеценыя дзяўчатамі, блікі ад музычных інструментаў, зыркія іскры купальскага вогнішча. Адным словам, прыгажосць...

І на іншых куркаўскіх мерапрыемствах дабрэеш душой, багацееш духоўна.

*Іван ГОЦМАН,*
*дырэктар Смалявіцкага гарадскога Дома культуры.*

■ Охрана труда

# ГИБНУТ ЛЮДИ

Такие печальные события, к сожалению, происходят в нашей жизни. Только в первом квартале на предприятиях и в организациях Минска и области в результате несчастных случаев на производстве погибло 37 человек /в прошлом году за соответствующий период — 27 человек/. Смертельный травматизм возрос в пяти отраслях народного хозяйства — в агропромышленном комплексе, энергетике, химической промышленности, автомобильном и сельскохозяйственном машиностроении.

По-прежнему вызывают тревогу вопросы охраны труда на селе: гибнут люди из-за эксплуатации неисправной, до предела изношенной сельхозтехники, отсутствия ограждений передач, карданных валов, неисправности блокировочных устройств, предотвращающих запуск двигателей тракторов на включенной передаче. По этой причине в колхозах и совхозах области в прошлом году погибло 12 механизаторов, в текущем уже смертельно травмировано 5.

В колхозе «Октябрь» Солигорского района из-за неисправности лесопильной рамы погиб рамщик. То же самое случилось в колхозе имени Чкалова Солигорского района, Узденском районном объединении «Сельхозхимия», совхозе «Советский» Минского района.

Три года подряд имеют место случаи смертельного травматизма в Слуцких электрических сетях. И в марте текущего года здесь из-за грубых нарушений правил безопасности при погрузке бульдозера на прицеп погиб электромонтер.

Не лучшее положение и у строителей: тут сохраняется травмоопасная обстановка. Например, в монтажном управлении №1 арендного предприятия «Промтехмонтаж» из-за неудовлетворительной организации работ повторяются случаи смертельного травматизма, как и у энергетиков, на протяжении последних трех лет.

Значительно упала трудовая дисциплина на предприятиях и в организациях. Достаточно сказать, что каждый четвертый работник из числа получивших смертельную травму находился на рабочем месте в состоянии алкогольного опьянения.

Безопасность труда — острая социальная проблема. Сложившееся положение является следствием многих причин. Прежде всего это отсутствие экономических механизмов, обеспечивающих полную ответственность нанимателей за охрану труда. Вот почему необходимо быстрее принять Закон «Об охране труда».

*Михаил ШАКУРОВ,*
*главный технический инспектор труда совета объединения отраслевых профсоюзов области.*

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

■ За кулісамі вялікай палітыкі

# Тайная дыпламатыя вакол "Справы ікс"

**У чэрвені будучага года спаўняецца паўвека, як Беларусь падпісала Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Шлях у ААН для яе быў далёка не просты. На Захадзе працэс уключэння дзвюх славянскіх рэспублік — Беларусі і Украіны — у першапачатковыя члены памянёнай міжнароднай арганізацыі атрымаў назву "Праблемы множнага прадстаўніцтва СССР", або "Справа ікс". Гэта і стала тэмай нашай гутаркі з прафесарам У.Е.Снапкоўскім, аўтарам манаграфіі "Шлях Беларусі ў ААН".**

— У замежнай гістарыяграфіі, — заўважыў Уладзімір Еўдакімавіч, — факт уваходжання Беларусі і Украіны ў састаў ААН на правах яе першапачатковых членаў дастаткова вывучаны. У савецкай жа — раскрыты толькі фрагментарна. Ва ўмовах таталітарнай дзяржавы, відаць, не было патрэбы засяроджваць на ім асаблівую ўвагу.

***— А ўвогуле, як узнікла ідэя стварэння ААН, хто быў яе ініцыятарам?***

— У кастрычніку 1943 года адбылася Маскоўская канферэнцыя міністраў замежных спраў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. Усе яе ўдзельнікі аднагалосна выказаліся за стварэнне ў пасляваенны перыяд міжнароднай арганізацыі для падтрымання міру і бяспекі. Утваралася яна на прынцыпах суверэннай роўнасці міралюбівых дзяржаў. Членам гэтай арганізацыі магла стаць любая краіна — вялікая ці малая. Па ініцыятыве СССР была ўтворана спецыяльная камісія для падрыхтоўкі і стварэння Міжнароднай арганізацыі бяспекі, так званай ААН.

Наогул, трэба адзначыць: пытанне пасляваеннага ўладкавання пачало турбаваць савецкае кіраўніцтва яшчэ задоўга да перамогі над фашысцкай Германіяй. Так, у студзені 1942 года рашэннем Палітбюро ЦК пры Наркамаце замежных спраў была створана камісія па праектах пасляваеннага дзяржаўнага ўладкавання краін Еўропы, Азіі і іншых рэгіёнаў свету. Узначаліў яе Молатаў. Перад камісіяй стаяла канкрэтная задача — збіраць усю інфармацыю, якая датычылася гэтай праблемы. Пільная ўвага ўдзялялася стварэнню розных міждзяржаўных блокаў, саюзаў, федэрацый. Асабліва тых, якія па сваёй сутнасці ў перспектыве маглі стаць патэнцыяльнымі праціўнікамі СССР.

***— Чым можна растлумачыць той факт, што ЗША і Вялікабрытанія — саюзнікі СССР па антыгітлераўскай кааліцыі — адмоўна ўспрынялі прапанову апошняга аб уключэнні ў ААН усіх 16 саюзных рэспублік?***

— Вялікая палітыка ёсць вялікая палітыка. І канчатковыя мэты не заўсёды супадаюць з мэтамі на нейкім этапе. У выніку атрымалася як у вядомай прымаўцы: дружба дружбай, а тытунь паасобку.

Разлік ЗША і Вялікабрытаніі на тое, што СССР выйдзе з вайны аслаблены, не апраўдаўся. Ужо ў канцы 1943 года стала ясна: Савецкі Саюз у ходзе ваеннай кампаніі перахапіў ініцыятыву. ЗША і Вялікабрытанія сур'ёзна занепакоіліся ўзмацненнем ролі і значэння СССР. Амерыканскі бок зрабіў заяву: рашэнні на пасляваенных мірных канферэнцыях будуць прымацца пераважнай большасцю галасоў. Для СССР гэта азначала пагрозу застацца ў ізаляцыі. Крэмль не задавальняла падобная перспектыва. Сталіну, паколькі членамі ААН маглі быць суверэнныя рэспублікі, прыйшлося ўспомніць аб "федэратыўным" характары Саюза ССР. У прыватнасці, аб тым, што да ўтварэння СССР Беларусь, Украіна, закаўказскія і іншыя савецкія рэспублікі самастойна развівалі адносіны з замежнымі дзяржавамі. Зыходзячы з гэтага кіраўніцтва СССР пачало рыхтавацца да легалізацыі "множнага прадстаўніцтва" саюзных рэспублік у міжнародных арганізацыях і асамблеях.

Юрыдычнай асновай для допуску саюзных рэспублік у праектуемую арганізацыю стаў прыняты Вярхоўным Саветам СССР у лютым 1944 года Закон "Аб прадастаўленні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне знешніх зносін і аб пераўтварэнні ў сувязі з гэтым Народнага камісарыята замежных спраў з агульнасаюзнага ў саюзна-рэспубліканскі народны камісарыят".

# ВОЗЬМЕМСЯ ЗА РУКІ, СЯБРЫ!

## Нататкі з Міжнароднага фестывалю "Голас дзяцінства", які адбыўся ў Мінску

***Наша рэспубліка ўжо даўно не з"яўляецца белай плямай на карце сусветнай цывілізацыі. У розных краінах яе называюць сястрой-партызанкай. Яе сыны Пётр Клімук і Уладзімір Кавалёнак праклалі свае арбіты ў космасе, магутныя машыны мінскіх і жодзінскіх аўтамабілебудаўнікоў зрабілі не адно падарожжа вакол зямнога шара. Пазнаюць беларусаў і па іх першародных песнях, па мілагучнай славянскай мове.***

А даведаюцца пра нашу Белую Русь яшчэ больш. Паспрыяе гэтаму Міжнародны фестываль "Голас дзяцінства", які нядаўна завяршыўся ў Мінску. Ён арганізаваны ўпраўленнем культуры Мінскага гарвыканкома, Беларускім таварыствам дружбы з замежнымі краінамі і гарадскім Цэнтрам адраджэння і развіцця беларускай культуры. У сталіцу нашай рэспублікі былі запрошаны самадзейныя мастацкія калектывы з Расіі, Амерыкі, Германіі, Румыніі, Аўстрыі, Украіны, Літвы, Балгарыі. У Палацы культуры мінскіх чыгуначнікаў адбылося ўрачыстае адкрыццё фестывалю. Чулася суладдзе галасоў з розных краін. Працавала выстава дзіцячай творчасці, на якой можна было ўбачыць, як нараджаюцца ўзоры з залацістай саломкі, як вырабляюцца з гліны прыгожыя цацкі. Госці наведалі Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і быту, які знаходзіцца ў вёсцы Строчыцы Мінскага раёна. Адбыліся сумесныя канцэртныя выступленні, якія яшчэ раз пацвердзілі, што мастацтва не прызнае межаў, што песня і танец з"яўляюцца надзейным паролем для дружбы і паразумення, згуртоўваюць людзей. Былі арганізаваны паездкі ў гаспадаркі Чэрвеньскага, Нясвіжскага, Мінскага і Смалявіцкага раёнаў. Да абеліска на плошчы Перамогі ўскладзены кветкі, праведзена мінута маўчання.

А ў мінулую нядзелю ў Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага прагучалі апошнія акорды гэтай незабыўнай урачыстасці — гала-канцэрт, вогнішча сяброўства, святочны феерверк. Гэта было месца не толькі для творчасці, а і для шчырых слоў, кветак, падарункаў, жартаў, абмену адрасамі. Гэты дзень пасябраваў дзяцей з розных краін, даў магчымасць прадэманстраваць свае таленты. Юныя танцоры з ансамбляў "Літарынка" БДУ, "Гарэзлівыя агеньчыкі" Палаца культуры чыгуначнікаў і іншыя калектывы выклікалі захапленне ў гасцей сваім высокім майстэрствам, шырокім выкарыстаннем фальклорнага матэрыялу, вяртаннем да жыцця жамчужын беларускай народнай творчасці.

— Удзел у самадзейнасці не перашкаджае табе ў вучобе? — спытаў у юнай артысткі з "Літарынкі" Насці Рэйт.

— Нікольні. Сёлета я паспяхова заканчваю 9-ы клас СШ №28 г.Мінска. Паспела ўжо закончыць курсы вязання, кройкі і шыцця. Набытае за спінаю не насіць, — па-дарослаdensamу адказала дзяўчынка.

Сваё арыгінальнае мастацтва падарыў гледачам вакальна-харэаграфічны ансамбль з Украіны "Кіяначка". Яму 10 гадоў, быў на гастролях у Італіі, Францыі, Калумбіі, Ліване. І адусюль вяртаўся са званнем лаўрэата. Сталае майстэрства паказалі юныя танцоры з Кіева і на мінскай сцэне. Кіруюць гэтым ансамблем Галіна і Дзмітрый Кайгародавы.

На сцэну запрашаюцца самадзейныя артысты з горада Спрынч-Вэмі са Злучаных Штатаў Амерыкі. Іх — дваццаць сем. Музыка, якую яны выконвалі, не патрабавала перакладу, яе цёпла ўспрымалі прысутныя. Там я і сустрэўся з кіраўніком гэтай групы Донам Кэрнзам. Вось што пачуў ад яго:

— Я ў вашай рэспубліцы шосты раз. Упершыню быў тады, калі бабахнула на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Нас тэрмінова адправілі дамоў. Пазней пачаў прывозіць гуманітарную дапамогу вашым людзям. Вось і цяпер даставілі медыкаментаў на некалькі мільёнаў рублёў. Перадалі іх дзіцячым бальніцам, там жа перад хворымі выступалі з канцэртамі. Сёння сваё самадзейнае мастацтва мінчанам дораць прадстаўнікі школы Рамапо, у якой вучацца дзеці многіх этнічных груп. Дэвіз гэтага калектыву — "Мы можам змяніць свет". І ў сваім захапленні мастацкай творчасцю яны многага дасягнулі. Што ні нумар — унікальнасць, разнастайнасць традыцыйнай культуры сваіх народаў.

Цікавыя трукі выштукоўвалі юныя цыркачы з г.Гарбсена, што ў Германіі. Ды ці пералічыш усіх, хто прыехаў на гэты фестываль? Гэта было свята не толькі мастацтва, але і шчырага сяброўства, новых знаёмстваў. Не пераставаў я ў тыя дні думаць і аб іншым: чаму ж яшчэ ў многіх рэгіёнах свету гавораць на мове зброі? Чаму людзі вымушаны хавацца ад куль? Ад усіх нас залежыць мір і спакой на Зямлі, каб свет не ведаў гора і адчаю, каб ва ўсім і ўсюды панавала еднасць. Возьмемся за рукі, сябры!

*Уладзімір КОБРЫН.*

• НА ЗДЫМКАХ: у час фестывалю.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Конкурсы

# БІБЛІЯТЭКА — МУЗЕЙ

У Барысаўскім раёне падведзены вынікі конкурсу "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры". Першае месца прысуджана Мсціжскай сельскай бібліятэцы, якой ужо шмат гадоў загадвае Н.С.Батура. Тут яе намаганнямі створаны музей прадметаў хатняга ўжытку і вырабаў народных майстроў, у якім можна ўбачыць маслабойку і жорны, ільнамялку і калаўрот, ступу і матавіла, кросны і лапці. Сабрана каля 150 экспанатаў. Маладому пакаленню гэты музей дае добрае ўяўленне аб побыце продкаў, абуджае цікавасць да гістарычнага мінулага, нашай спадчыны. У бібліятэцы прыгожа афармлены альбом, матэрыялы якога падрабязна расказваюць аб гісторыі вёскі, мясцовага калгаса. Чытачоў прыцягваюць стэнды "Незаслужана забытыя кнігі", "Імёны, адкрытыя нанава", "Лепшыя кнігі года", "Новыя выданні" і іншыя. Інтэр"еру памяшкання нададзены элементы нацыянальнага каларыту, паказальнікі кніжнага фонду перакладзены на родную мову. Любяць тут праводзіць свой вольны час і юныя чытачы, для якіх абсталяваны куток, дзе дзіцячыя казкі прадстаўлены малюнкамі і вырабамі вучняў старэйшых класаў мясцовай школы.

Бібліятэкару Н.С.Батуры ўручана грашовая прэмія ў суме 20 тысяч рублёў.

Другое месца заняла Забашавіцкая сельская бібліятэка і трэцяе — Кішчынаслабодская. Ім уручаны адпаведна 15 і 10 тысяч рублёў.

Адзначана добрая работа па адраджэнню гістарычнай і культурнай спадчыны Бродаўскай, Вяляціцкай, Жыцькаўскай, Мётчанскай сельскіх бібліятэк.

*Ганна ПАТАПЕНКА, бібліятэкар Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.*

■ Скатерть-самобранка

# ОБЕД ИЗ... КРАПИВЫ

***Кстати, и вкусно, и полезно, и едят все с удовольствием, как говорится, "в охотку".***

### Салат из крапивы

.Пучок молодой зелени /с полкилограмма/ перебирают, моют, складывают в дуршлаг. Несколько раз обдают кипятком. Добавляют мелко нарезанный зеленый лук, 3-4 сваренных вкрутую яйца, также мелко порубленных. Солят по вкусу, но не слишком — салат получится тогда водянистым. Заправляют сметаной. Выкладывают горкой в салатник или на блюдо, украшают дольками яйца и зеленым луком.

### Пельмени с зеленью

Берем с полкилограмма муки. Просеиваем, добавляем соль. Замешиваем на воде крутое тесто, накрываем салфеткой и даем «отлежаться», пока готовим фарш. Для него рвем крапиву, черемшу, щавель. Одним словом, все, что соберете на огороде. Хорошо промываем, мелко рубим. Репчатый и зеленый лук режем, слегка обжариваем в масле или маргарине. Перемешиваем с зеленью. Добавляем мелко порубленные крутые яйца, соль. Когда масло застынет, фарш «схватится», станет достаточно плотным.

Теперь тесто раскатываем тонко, как для обычных пельменей. Вырезаем кружочки стаканом или рюмкой. На каждый кружочек кладем фарш. Хорошо защипываем, чтобы сок не вытек. Варим в кипящей воде минут 15. Подаем со сметаной, простоквашей или с чесночно-сметанным соусом

/ 4 растолченных в ступе зубчика чеснока на стакан сметаны/.

■ Маленькія хітрасці

### МОЛЬ БАІЦЦА ПАЛЫНУ

У шафах, камодах, кладоўках, дзе вы захоўваеце адзенне, раскладзіце лісты палыну, тытуню, святаянніку, арэха або сухія апельсінавыя лупіны. Моль адпуджвае таксама пах герані. Яе лічынкі гінуць, калі адзенне сушаць на гарачым сонцы не менш як 3 гадзіны, потым выбіваюць пыл і добра вычышчаюць.

### МУРАШЫ НЕ ЛЮБЯЦЬ ПЯТРУШКУ

Для знішчэння іх можна карыстацца прэпаратам тыпу «Прыма». Мурашы не любяць паху пятрушкі, цыбулі, часнаку, алею. Раім прыгатаваць і такую прынаду: 50 грамаў вады, 6 грамаў буры, 50 грамаў цукру. Усё перамяшаць і пакласці маленькімі порцыямі ў тых месцах, дзе ёсць мурашы. Дапамогуць таксама свежыя дрожджы, разведзеныя вадой да кансістэнцыі густой смятаны. У іх дабаўце крыху цукру ці варэння.

# ХАТНІ ЭКРАН!

### 2 чэрвеня, чацвер

***Беларускае тэлебачанне***

15.00. "Еўрапейскі калейдаскоп".
15.30. Голас. Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў.
16.30. "Сучаснасць і будучыня беларускай культуры і нацыі".
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. "Музыка шкла". Кінанарыс.
17.50. Незвычайны рэйс.
18.05. Зачытайце маё пісьмо...
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Асацыяцыя дзіцячай прэсы прадстаўляе: "БЭМЦ".
19.15. Запрашаем на вячоркі.
20.10. Пазіцыя ўрада.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Адкрыццё II Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-94".

***Канал "Астанкіна"***

15.10. "Прыгоды Тома Соера". Мультфільм.
15.40. Тэлекампанія Сі-бі-эн (ЗША).
16.10. ...Да 16 і старэйшым.
17.25. За кулісамі.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Загадка СБ.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.55. Споведзь "абачлівага" чалавека.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Вагон 03.
20.55. Лато "Мільён".
21.25. Спявае Л.Нікалаева.
21.55. "Настасся. Загадка Ганны". 3-я серыя.
23.15. Белае і чорнае.

***Канал "Расія"***

15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Неабпальная купіна.
17.15. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Рэпарцёр.
20.40. Актрыса Вольга Ляндзберг.
21.15. 60 мінут.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Экран крымінальных паведамленняў.
23.05. Вячэрні салон.

### 3 чэрвеня, пятніца

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Дзелавая хроніка.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.45. "Кіраўскія ўмельцы". Кінанарыс.
8.55. ТБ — школе.
12.35. Фільм-канцэрт.
13.15. Пазіцыя ўрада.
13.30. Навіны.
14.50. Педагагічны экран.
15.25. "Сучаснасць і будучыня беларускай культуры і нацыі".
16.25. Гандбол. Беларусь — Германія.
17.50. Навіны (з сурдаперакладам).
18.00. Дзелавая хроніка.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Трэці тайм. Футбольны агляд.
19.45. Рэйтынг.
20.00. "Еўратунэль — будоўля стагоддзя".
20.15. Студыя "Тэлесябрына".
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Сенсацыя". 3-я серыя.
22.40. Надвор'е.
22.50. НІКа.
23.05. "Ванільна-клубнічнае марожанае". Маст. фільм (Францыя).

***Канал "Астанкіна"***

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
8.20. Сарока. Дзіцячая інфармацыйная праграма.
8.40. Агарод круглы год.
9.10. 50 х 50.
10.50, 23.55. Прэс-экспрэс.
11.20. Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
11.50. "Джыўс і Вустэр".
14.25. Прадпрымальнік.
14.55. Бізнес-клас.
15.10. Ці можна абысціся без грошай?
15.15. "Пра ката".
16.40. "Карцінкі падаўнейшаму".
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Чалавек і закон.
17.55. Рэха тыдня.

**Калектыў работнікаў вучэбнага цэнтра камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання аблвыканкома выказвае глыбокае спачуванне дырэктару вучэбнага камбіната Клецкага райсельгасхарча Міхаілу Міхайлавічу Уласіку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

**Коллектив объединения "Минскоблагроспецмонтажкомплект" выражает глубокое соболезнование бывшему главному экономисту объединения Татьяне Елисеевне Голышевой в связи с постигшим ее горем — смертью мужа.**

**Калектыў "Мінскай праўды", сябры і таварышы смуткуюць з выпадку раптоўнай смерці ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, ветэрана журналістыкі, старшыні Маладзечанскага гарадскога савета ветэранаў вайны і працы Івана Сцяпанавіча СЦЯПАНАВА і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Мінская праўда" глыбока смуткуе з прычыны смерці былога рэдактара газеты "Советская Белоруссия" Юрыя Міхайлавіча ІВАНОВА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.**

## 8 канал

**2 июня, четверг**

18.00. Многосерийный фильм "Карусель".
18.20. Музыкальная программа.
19.00. Телесериал "Лабиринт правосудия", "Ослепляющее зло".
20.00. Мультсериал "Вольтрон".
20.30. Телесериал "Морена Клара". 19 серия.
21.25. Спортивная программа "Файт", "Кикбоксинг".
21.45. Детектив... Боевик... художественный фильм "Все случилось на равнинах" из серии "Я шпион".
22.45. Eoxy music (повтор).

**3 июня, пятница**

18.00. Многосерийный фильм "Карусель".
18.20. Музыкальная программа. Доремифасольки.
19.00. Программа о здоровье "Доктор... доктор..."
19.20. Многосерийный фильм "Судьба". 65 серия.
20.00. Мультсериал "Вольтрон".
20.30. Телесериал "Морена Клара". 20 серия.
21.20. Время местное.
21.45. Фантастика на экране. Художественный фильм "Отроки во Вселенной".
23.00. Музыкальная программа.

■ Наши консультации

# О ПОРЯДКЕ ВЫПЛАТЫ ПОСОБИЙ

## по временной нетрудоспособности, беременности и родам при переходе предприятий и организаций на неполное рабочее время

По общим правилам, пособие по временной нетрудоспособности выплачивается за рабочие дни /рабочее время/, пропущенные вследствие нетрудоспособности, в соответствии с утвержденным графиком работы предприятия /цеха/. Такой же порядок применяется и в том случае, если нетрудоспособность наступила в период, когда предприятие /цех/ перешло на график работы с сокращенным рабочим днем или сокращенной рабочей неделей.

Однако для ряда категорий трудящихся правилами исчисления среднего заработка, утвержденными постановлением Госкомтруда Республики Беларусь № 25 от 15.04.93 г. введен льготный порядок исчисления пособий при переходе на сокращенный график работы.

По графику работы до перехода на неполное рабочее время пособия выплачиваются в следующих случаях:

при отпусках по беременности и родам;

при временной нетрудоспособности, возникшей в результате трудового увечья или профессионального заболевания, ухода за больным ребенком, ухода за ребенком в возрасте до трех лет в случае болезни матери или иного лица, фактически осуществляющего уход за ребенком, и ребенком-инвалидом в возрасте до 16 лет;

работникам, проживающим /проживавшим/ в зонах радиоактивного загрязнения: эвакуации, первоочередного и последующего отселения;

участникам и инвалидам Отечественной войны, а также лицам, приравненным к ним по льготам;

участникам ликвидации последствий аварии на Чернобыльской АЭС.

При этом средний заработок, учитываемый при назначении пособий, во всех случаях исчисляется по общим правилам.

Например, предприятие перешло в 1993 г. с пятидневной на трехдневную рабочую неделю с 10 февраля по 15 марта. Работник этого предприятия вследствие производственной травмы был нетрудоспособен с 1 по 26 марта включительно. Его среднедневной заработок за фактически отработанные рабочие дни в январе-феврале составил 400 руб. За время нетрудоспособности, согласно графику, существовавшему до перехода на сокращенный, им пропущено 19 рабочих дней. Размер назначенного пособия составит 7.600 руб. /400 руб. х 19 дней/.

Если бы этот работник был нетрудоспособен в связи с каким-либо общим заболеванием и не имел никаких льгот из перечисленных в правилах, то пособие ему выплатили бы за 15 рабочих дней /с 1 по 15 марта по сокращенному графику пропущено 6 рабочих дней и с 16 по 26 марта — 9 рабочих дней в связи с тем, что предприятие с 16 марта перешло на прежний график работы/.

Если предприятие работает с сокращенным рабочим днем, то при временной нетрудоспособности, беременности и родах начисление среднего заработка и пособий производится из расчета на 1 час рабочего времени, так как в учитываемых периодах работы рабочие дни могут быть разной продолжительности.

Предприятие с 10 февраля по 15 марта перешло на сокращенный рабочий день /4 часа/ при сохранении пятидневной рабочей недели. Работник вследствие общего заболевания был нетрудоспособен с 1 по 26 марта. Его среднечасовой заработок за фактически отработанное рабочее время в январе-феврале составил 50 рублей, непрерывный трудовой стаж — свыше 8 лет.

Если этот работник имеет предусмотренные правилами льготы, то пособие ему исчисляется за пропущенное рабочее время исходя из 8-часового рабочего дня в размере 7.600 руб. /19 дней х 8 часов х 50 руб./.

При отсутствии льгот пособие выплачивается за рабочее время с 1 по 15 марта за 6 рабочих дней по 4 часа /24 часов/ и с 16 по 26 марта за 9 рабочих дней по 8 часов /72 часа/. Итого пропущено по болезни 96 рабочих часов, размер причитающегося ему пособия — 4.800 руб. /96 час. х 50 руб./.

*ОТДЕЛ СОЦИАЛЬНОГО СТРАХОВАНИЯ ОБЛАСТНОГО УПРАВЛЕНИЯ ФОНДА СОЦИАЛЬНОЙ ЗАЩИТЫ.*

## Спорт

### Абсалютна лепшая

Прызнаным лідэрам сярод беларускіх ваднальыжніц з"яўляецца мінчанка Юлія Грамыка. Гэта яна яшчэ раз пацвердзіла на этапе Кубка Еўропы ў Германіі. Наша зямлячка заваявала абсалютнае першынство — перамагла ў фігурным катанні, слаламе і скачках на лыжах з трампліна. Яна набрала найбольшую суму балаў і ў мнагаборстве.

### У другой і трэцяй лігах

Трынаццаць каманд з Мінска і нашай вобласці выступаюць у другой і трэцяй лігах чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу. Адны з іх прэтэндуюць на пераход у больш высокую лігу, другія "ходзяць у сераднячках", а трэція "прапісаліся" ў апошніх радках турнірнай табліцы.

На адзіную пуцёўку ў першую лігу з другой каманды Міншчыны разлічваць не могуць, бо лепшая з іх, а гэта "Сантанас" з вёскі Самахвалавічы Мінскага раёна, займае толькі шостае месца. Тут лідзіруе лідскі "Абутнік", які, дарэчы, год назад выступаў ужо сярод мацнейшых каманд рэспублікі. Ён перайшоў у другую лігу разам з жодзінскім "Тарпеда". Калі футбалісты Ліды маюць усе шанцы рэабілітаваць сябе, то тарпедаўцы не могуць нават выбрацца з ніжняй часткі турнірнай табліцы. І пасля перамогі над футбалістамі Слоніма — 1:0 у іх толькі 19 ачкоў, а гэта адзінаццатае месца.

Яшчэ горш выступаюць мінскія каманды АФВіС—РШВСМ і "Змена", у якіх 12 і 11 ачкоў. Яны, напэўна, і развітаюцца з другой лігай. На іх месца тры прэтэндэнты з трэцяй лігі. Гэта мінская "Атака-Аура", гродзенскі "Кардан-Флайерс" і барысаўская "Фамальгаут". Усе яны ў прайшоўшым туры атрымалі перамогі і маюць адпаведна 45, 43 і 41 ачко.

Бліжэй да сярэдзіны турнірнай табліцы знаходзяцца "Маладзечна-2", мінская каманда "Дынама-ЮНІ", а вось "Трактар", любанская "Арэса", стаўбцоўскі "Нёман", "Зара" з калгаса імя Скварцова і Маёрава Старадарожскага раёна і клецкая "Рада" выступаюць надта слаба. На іх рахунку ад дванаццаці да васемнаццаці паражэнняў.

### Суткі на бег

Мінчане Анатоль Лапуць і Алег Быкаў прынялі ўдзел у чэмпіянаце Еўропы па сутачнаму бегу, які праходзіў у венгерскім горадзе Сегедзе.

Згодна з умовамі гэтага ультрамарафону, спартсмен атрымліваў залік толькі ў тым выпадку, калі ён за 24 гадзіны пераадолее не менш як 175 кіламетраў. Мінчане з гэтай задачай справіліся. Лапуць у сваёй узроставай групе заняў чацвёртае месца, а Быкаў — пятае.

### Пуцёўка ў фінал

Восенню ў Турцыі адбудзецца фінал чэмпіянату Еўропы па валейболу сярод маладзёжных каманд. Каб трапіць у заключную частку першынства, валейбалістам Беларусі трэба было пераадолець адборачны турнір, які праходзіў у Рызе.

На дзве пуцёўкі ў фінал прэтэндавалі шэсць каманд. Нашы спартсмены занялі першае месца, выйграўшы ўсе пяць матчаў. З лікам 3:0 яны нанеслі паражэнне зборным Германіі, Ізраіля, Швейцарыі і Латвіі і перамаглі валейбалістаў Фінляндыі — 3:1, якія сталі другім фіналістам з гэтай адборачнай групы.

*/Наш кар./.*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна-эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем —68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 17775 Індэкс 63923. Зак.№57.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12